 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 52 (1244) ГОД XXIV БЕЛАСТОК, 30 СНЕЖНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.

## КАЛІ БУДАВАЦЬ, ДЫК З РАЗМАХАМ

У адзін з імжыстых снежаньскіх дзён давялося трапіць нам на незвычайную ўрачыстасць. Спецыялістычная гаспадарка Панцэвічаў з Ліпін узбагацілася новай сучаснай хлеўняй. Іменна хлеўняй, не хлявом, бо з традыцыйным хлявом гэты мураваны будынак мае столькі супольнага, што і адно і другое прызначана для гадоўлі свіней.

Здаралася нам бываць на адкрыцці розных аб'ектаў: Дамоў культуры, школ, святліц, пунктаў аховы здароўя, а вось на адкрыцці хлеўні, ды яшчэ ўрачыстым — упершыню. І як на кожнай важнай урачыстасці былі і паважаныя госці з гміны, што нямала дапамаглі пры будове, былі і кветкі, і нават стужка для перарэзвання пры ўваходзе, г. зн. у даным выпадку, пастронак.

Гаспадары першай у Гайнаўскай гміне спецыялістычнай гаспадаркі Ала і Здзіслаў Панцэвічы, накарміўшы і дагледзеўшы з самага ранка сотню сваіх парасячых гадаванцаў, узрушана сустракалі гасцей. Паказвалі старую і новую хлеўню, свінаматак з малюсенькімі парасятамі, якія выграваліся пад награвальнымі лямпамі, трошкі большых парасят рознага ўзросту на адкорм і значную колькасць ужо адкормленых ружова-белых падсвінкаў, якім да скупу асталося ўжо толькі некалькі месяцаў.

Гаспадары паказвалі, расказвалі, дзяліліся сваімі думкамі наконт новага аб'екта. Калі запланавалі будаваць другую хлеўню, Здзіслаў шмат передумаў, якой яна павінна быць. Чатыры разы ездзіў на спецыялістычныя экскурсіі па розных гаспадарках краіны. Але, як прызнаецца, выкарыстаць вопыт іншых не ўдалося. Гаспадары свінаферм неахвотна ўпускаюць экскурсантаў у свае аб'екты: парасяты вельмі чулыя на розныя хваробы. А чалавек можа іх прынесці ў хлеўню. Будаваў так, як, здавалася, будзе найбольш практычна. Але цяпер ужо бачыць, што некаторыя справы можна было б зрабіць лепш. Калі б цяпер хто з маладых яго спытаў, як лепш, напэўна дапамог бы.



З. Панцэвіч (пасярэдзіне) каля будынка новай хлеўні.

*Фота аўтара*

Невыгодай папярэдняй хлеўні была адсутнасць пры ёй складавых памяшканняў. Тут жа, у новай хлеўні, адведзена даволі вялікае памяшканне на склад для кармоў, асабліва мяшанак, і прыстасаванняў для іх апрацоўкі. Тут жа ў падвале знаходзіцца месца на сілас. Гэта добра зроблены сіласны бункер, да яго проста з хлеўні вядуць кароткія выгодныя прыступкі. Усё тут пад рукой, каб максімальна аблегчыць працу гаспадарам.

Да аб'екта даведзена бягучая вада са студні пры дапамозе гідрафора. Ёсць і гарачая вада, якая паступае ў больер з кухні, якая знаходзіцца тут жа, за сцяной. У ваннай абсталяваны ўсе патрэбныя рэчы з поўным туалетам.

— Спачатку, — кажа гаспадар, — мы вырашылі зрабіць адпаведны варштат для працы. Гэта галоўнае. Хлеўня дапаможа нам паставіць хату, гаражы для машын і ўсё іншае, неабходнае ў нашай працы.

Пачыналі Панцэвічы тры гады назад ад пабудовы першай хлеўні на 40 свіней. Тады яшчэ Здзіслаў працаваў на дырэктарскай пасадзе ў Гайнаўцы. Быў прэзасам гайнаўскага аддзела Ваяводскай паслуговай спулдзельні працы. Працаваў шмат, укладаў у працу ўсё сваё ўменне і сілы. Дома бываў рэдкім госцем. Але поўнага задавальнення яму гэтая праца не давала. 13 гадоў прапрацаваў на розных кіраўнічых пасадах.

(Працяг на стар. 4)

## СЭНС ЖЫЦЦЯ

Нырнула дарожка ў лясок і павяла нас да вёсачкі Церамкі (гміна Нараўка). Складаецца яна з некалькіх хат, раскінутых на ўскраіне лесу. Прыгожыя тут краявіды — лес, а за лесам цягнуцца сенажаці і істужкаю ўецца рэчка Нарва. А паветра — хоць у бутэлькі закаркоўвай і на экспарт адпраўляй, або на задымлены Шлёнск. Там напэўна яго нарасхват бралі б і яшчэ прасілі б, а тут на такую раскошу ніхто і ўвагі не звяртае.

Тут, у Церамках, далёка ад вялікіх гарадоў і шумных магістраляў, жыве патомны, сялянскі род Рубчэўскіх. Пакаленне за пакаленнем прыходзіла ў жыццё і пакідала яго вось тут, у гэтай вёсачцы, выканаўшы заўсёды неабходную, але не заўсёды ўдзячную місію, місію людзей-земляробаў. Толькі апошнія пакаленні, у часы народнай улады ў Польшчы, і з Церамкоў падаліся ў горад па адукацыю і працу і некаторыя з іх займаюць цяпер высокія і адказныя пасады.

Сям'ю Уладзіміра Рубчэўскага мы наведалі ў адзін з сонечных кастрычніцкіх дзён. Гэты дзень у іх быў вельмі працавіты. Рубчэўскія заканчвалі капаць бульбу. Спяшаліся выбраць яе з выараных баразнаў, пасля на бульбянішчы пасеяць жыта. Прыйшла памагаць цёшча Уладзіміра, Варвара Барэчка з Ляўкова, і хрэсны бацька яго жонкі, сваяк Уладзімір Харкевіч з суседніх Навін. Праца лепш спорыцца і весялей працаваць у кампаніі. Надвячоркам прыехаў з Беластока сын Рубчэўскіх Янка. Ён электрык, жыве і працуе ў Беластоку. Калі надарыцца яму вольны час, едзе ў Церамкі, каб дапамагчы сваім бацькам. Таксама і дачка Галя. Яна закончыла малочны тэхнікум і працуе ў беластоцкай малачарні. Яна таксама не забывае бацьку і маці, часта іх наведвае. Любіць яна свае родныя мясціны, сваю вёсачку, бацькоўскую сялібу з усімі яе будынкамі.

Уладзіміра Рубчэўскага можна назваць майстрам на ўсе рукі, бо ён сам і муруе, і тынкуе, і людзям у гэтым дапаможа. Пабудаваў ён сабе ўсе гаспадарчыя будынкі і павялічыў бацькоўскую хату, дабудаваўшы яе частку, у якой знайшлося шмат месца на сені, каморы і кухню. Рубчэўскія працуюць на шасці гектарах. Маюць тры дойныя каровы, ад якіх у малочны сезон прадаюць дзяржаве штодзённа па сорак літраў малака. Гадуюць яны тры штукі яловага быдла, прызначанага таксама на продаж дзяржаве. Апрача таго, шэсць штук свіней, шмат курэй ды каня.

Уладзімір Рубчэўскі з'яўляецца таксама кансерватарам меліярацыйных равоў. Іх пад яго апекай трынаццаць кіламетраў. Ён іх абкошвае, адмульвае, рэгулюе водныя застаўкі. Гэта працавіты і здольны чалавек. І яго жонка Вера такая самая. Яна не толькі добрая гаспадыня, але таксама добрая краўчыха, майстрыха ткання дываноў, кілімаў, ходнікаў, перабораў.

Але вернемся да тых бульбяных баразёнак, з якіх Вера Рубчэўская са сваёй маці выбірала бульбу. Ужо сонца хавалася за лесам, калі яны завязвалі апошні мяшок бульбы. Жанчыны з кошыкамі накіраваліся дамоў. Уладзімір са сваяком Уладзімірам Харкевічам налажылі поўны воз мяшкоў і прывезлі іх пад склеп на панадворку. Якраз адазваўся сабака, які брэхам сваім паведамляў гаспадарам, што нехта чужы наблізіўся да іх брамкі. Гэта па дарозе заехаў да іх брат нарачонага іх дачкі (будучы іх зяць пакуль што служыць у войску).

— У добры час, якраз нядаўна закончылі мы бульбяное жніва, — прагаварыў з задавальненнем Уладзімір Рубчэўскі і запрасіў госця ў хату. Гаспадыня хаты ўзялася за падрыхтоўку пачастунку. На патэльні смажыліся скваркі, ад якіх па ўсёй хаце пацягнула смачным араматам. На стале ў пакоі паявілася і бутэлька віна. Варвара Барэчка — маці гаспадыні хаты, якой ужо 76 год, але якая на столькі не выглядае ні з твару, ні па сваёй энергічнасці, а таксама сваяк Рубчэўскіх, Уладзімір Харкевіч, двума гадамі маладзейшы ад Варвары, расказвалі аб мінулых цяжкіх гадах пры санацыйнай Польшчы, а ён, Харкевіч — рэвалюцыянер,

(Працяг на стар. 4)

Рэпарцёрскіх запісак

## БУДЗЕ ДРУГІ МІЛЬЁН...

Ніна Хлябіч з'яўляецца кіраўнічкай вясковай крамы ў Бандарах.

— Што вы! — пярэчыць яна. — Тут не крама, а **павільён!**

Хай будзе **павільён.** Знаходзіцца ён за вёскай. З узгорка ад гэтага гандлёвага вясковага павільёна відаць жалезабетонныя глыбы будучай галоўнай плаціны, якая прымусіць спакойную зараз раку Нараў ператварыцца ў абшырнае возера. Будоўля за Бандарамі — адно са звенняў магутнага мерапрыемства будучай пяцігодкі, якому прысвоена назва **„Праграма Вісла“.**

Ва ўказаннях на VIII з'езд партыі гаворыцца, што *„ажыццяўленне (гэтай) праграмы забяспечыць асноўны праргрэс у сельскагаспадарчым загаспадаранні басейна Віслы. Рэгуліроўка вадзяных рэсурсаў створыць умовы для развіцця высокатаварнай сельскагаспадарчай прадукцыі на плошчы велічынёю амаль у 4 мільёны га, што складае звыш 20 прац. усіх сельскагаспадарчых угоддзяў краіны“.*

Нейкая часціна гэтай вялікай праграмы ўжо здзяйсняецца менавіта тут за Бандарамі, на другім супрацьлеглым ад гандлёвага павільёна беразе Нарвы — ракі, якая свае воды нясе ў Віслу.

— Але ж наш павільён, заяўляе загадчыца Ніна Хлябіч, — пабудавалі сем гадоў таму назад. Тады аб праграме „Вісла“, а таксама і аб Семяноўскім вадасховішчы, аб плацінах у Бандарах не было яшчэ і слыху. Здавалася нам, што тавару не хопіць, каб запоўніць такі аграмадны будынак, а цяпер стала ўжо як бы цеснавата.

*

Перад павільёнам — легкавыя і грузавыя аўтамабілі, пад сасонкай конік жуе свой аброк, побач стаяць матацыклы, мотапеды і веласіпеды. Відаць, славіцца гэтая гандлёвая ўстанова ў бандароўскім наваколлі.

Зазіраю ў сярэдзіну. З левага боку ад уваходу — боты, вопратка і ўсё іншае такое, што прамысловасць для людзей рыхтуе. На права — гастраном. Усё, або амаль усё для кухні і хатніх патрэб.

Ніну Хлябіч за працу і грамадскую актыўнасць хваляць у Міхалоўскім ГСе. Аб яе арганізатарскіх здольнасцях меркаваць таксама можна і па забеспячэнні крамы таварамі.

— Не здарылася мне чуць, — кажа яна, — каб людзі наракалі на недахоп тавараў. Пэўна, няма ўсяго, чаго чалавек сабе пажадаў бы. Наш жа павільён — гэта не зачараваны „сезам“, да якога хопіць толькі адгукнуцца, каб адразу абсыпаў цябе ўсялякім дабром. То ж перажываем цяжкі перыяд. Калі няма, для прыкладу, удосталь збожжа ў ся-

Працяг на стар. 4



Тут заўсёды поўна людзей.

 

СПАКОЮ Ў ХАЦЕ І НА СВЕЦЕ, СПАЎНЕННЯ ПАТАЕМНЫХ МАРАЎ ЖАДАЕ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ У НОВЫМ ГОДЗЕ

РЭДАКЦЫЯ „НІВЫ“

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ДА АЛІМПІЙСКАГА НАВАСЕЛЛЯ

Мінск прывык да новабудоўляў. Кожны дзень недзе святкуюць наваселле, а недзе закладваюць яшчэ адзін фундамент. Але шматпавярховы будынак новай гасцініцы „Планета“, што вырас на Паркавай магістралі, аб'ект асаблівы. Гасцініца павінна прыняць наступным летам гасцей Алімпіяды-80. Цяпер у будынку ідуць аддзелачныя работы.

На вачах мяняецца аблічча стадыёна „Дынама“.

### ВЫДАДЗЕНА ЎПЕРШЫНЮ

На блакітным пераплёце залатымі літарамі акуратна выведзены тры словы — „Гісторыя беларускай журналістыкі“. Такая кніга выдадзена ўпершыню. На кожнай яе старонцы — подых часу, напамінак аб забытым, адкрыццё нязведанага. Аўтары — Р. Булацкі, І. Сачанка і С. Говін — вядуць расказ аб станаўленні беларускай журналістыкі, пачынаючы ад першых перыядычных выданняў на тэрыторыі Беларусі і да нашых дзён.

### БЕЛАРУСКАЯ ПУШНІНА

Маладзечанская зверагаспадарка спецыялізуецца па вырошчванні норак. Мех звяркоў карыстаецца попытам на аўкцыёнах па продажу пушніны. Нядаўна ў звераводаў з'явіліся новыя клопаты — у клетках гаспадаркі пасяліліся серабрыста-шэрыя янотыпаласкуны.

### „АКІЯН-219“

З канвеера мінскага аб'яднання „Гарызонт“ сыходзяць радыёпрыёмнікі „Акіян-219“ з алімпійскай сімволікай. Апарат створаны на базе папярэдняй мадэлі „Акіян-209“, але мае больш прыгожы выгляд, удасканаленую антэну, канструкцыю для падключэння магнітафона. У гэтым годзе аб'яднанне выпусціць восем тысяч такіх прыёмнікаў.

### КАЛЯНДАР

**35 гадоў назад**

30.12.1944 пам. Р. Ралан, французскі пісьменнік.

30.12.1944 у Любліне адбыўся І сялянскі з'езд. Быў створаны Саюз сялянскай самадапамогі.

30.12.1944 КРН прыняла рашэнне аб стварэнні Часовага Урада Рэчы Паспалітай.

**25 гадоў назад**

5.12.1954 адбыліся першыя агульныя выбары ў рады нарадовыя ўсіх ступеняў.

**20 гадоў назад**

4.1.1960 пам. А. Камю, французскі пісьменнік.

Niwa

BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY

ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE“ Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

ADRES REDAKCJI
Niwa
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 2-32-41

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch“, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch“ oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 2176 Nakład 7.600 egz. S-7



МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# З тае эпохі

Гэтая сустрэча адбылася 26 мая адыходзячага ўжо года, значыць, болей сямі месяцаў таму назад, а я яшчэ і цяпер маю перад вачыма паважную постаць **Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пяюна**, яго адкрытую дабратлівую ўсмешку, незвычайную як на салідны, бо 73-гадовы, узрост малажавасць у рухах і чысты, здаровы голас. Ён сустрэў мяне на тралейбуснай астаноўцы і павёў па аддлеглым ад сталічнага цэнтра зацішным і зялёным квартале к сабе. У яго невялічкай кватэрцы за шклянкай чаю мы няспешна, але адразу пачалі акунацца ў тую складаную і цяжкую ў гісторыі беларускага народа эпоху, якую завуць Заходняй Беларуссю.

Паходзіць С. М. Новік-Пяюн з сям'і народнага настаўніка з-пад Нясвіжа, з той народнай інтэлігенцыі пачатку нашага стагоддзя, якая несла простым людзям асвету ў вельмі шырокім значэнні, бо мусіла спаўняць абавязкі лекара, агранома, адваката і каго толькі яшчэ. Ён наследаваў гэтыя традыцыі і да жыцця рыхтаваўся грунтоўна. Малюнку яго вучыў мастак Мікалай Літвіненка. А вучнем ён быў здольным. Нацякаца гэта сцвердзіць па дзесятках захаваных замалёвак з роднай вёскі Лявонавічы і яе ваколіц. Яго работы „Нясвіжскі замак“, „Млын-вятрак у Лявонавічах“, „Маёнтак у Смолічах“ і шэраг іншых маюць значную этнаграфічную і мастацкую каштоўнасць. Музычную адукацыю атрымаў у прафесар Кацярыны Плішка-Банасевіч, яна, між іншым, выкладала музыку і спевы на курсах для настаўнікаў беларускай мовы ў дваццатыя гады. Майстэрству іграць на скрыпцы вучыў яго Тадэуш Тадроўскі. Захапленне паэзіяй прыйшло натуральна, яшчэ ў гімназіі. Пісаў сатырычныя вершы на знаёмых, выказваў уласныя перажыванні і пачуцці. І ў той жа час грунтоўна авалодваў французскую, нямецкую мовы. Але найбольш захапіўся мовай, створанай беластаччанінам Заменгофам, — эсперанта. І да такой ступені, што склаў словы і музыку „Песні юных эсперантыстаў“, якую ў 1966 г. апублікаваў часопіс балгарскага эсперанцкага таварыства. Нельга таксама абмінуць, што надта цікавіць яго беларуская вусная народная творчасць, яе ён збірае з гімназіяльных гадоў па сённяшні дзень.

Гэтае яго заангажаванне, усебаковая падрыхтоўка нацэльвалася на адно — стаць праўдзівым педагогам і культурна-асветным дзеячом у сваім родным асяроддзі. І некалькі год ён быў такім. Але гэта было не на руку санацыйным уладам, яны пазбавілі яго права навучання і саслалі ў 1926 годзе пад паліцэйскі нагляд у горад Свеце над Віслай. Там ён аказаўся без граша і без працы. На кавалак хлеба зарабляў дзе-якой падзённай работай, малюнкамі, ігрой на скрыпцы. Перажыванні таго часу найяскравей выліліся ў яго вершы „Усё роўна мне...“:

„Здароў быў, грудзі не стагналі,
Як жыў я ў роднай старане,
Кавалак сэрца мне забралі —
Забралі бацькаўшчыну мне“.

І ён адваёўвае сваю бацькаўшчыну. Вершамі і песнямі, якія так як „Зорачкі“, становяцца папулярнай песняй у Заходняй Беларусі. Стала супрацоўнічае з беларускім часопісам для дзяцей „Заранка“, які выдавала ў Вільні Л. Войцікава, у сваіх артыкулах, вершах, п'есах прывівае маладому пакаленню замілаванне да роднай старонкі, традыцый, мовы, развівае дапытлівасць. Яго п'есу „Ёлка дзеда Мароза“ выдае ў 1927 г. Таварыства беларускай школы, і яна ставіцца ў многіх гуртках. Перакладае на беларускую мову некалькі п'ес польскіх аўтараў: „Пакой у наймы“ А. Паплаўскага і А. Галянскага і іншыя і гэтым выдатна ўзбагачае рэпертуар беларускіх аматарскіх тэатральных гурткоў. Займаецца перакладамі рускай паэзіі, многа піша ў беларускія газеты і часопісы.

І хоць ссылка скончылася, але С. М. Новіку-Пяюну не толькі не дазваляюць вярнуцца да працы ў школе, але нават жыць у роднай мясцовасці. Ён вымушаны пасяліцца ў Слоніме і жыць пад сталым наглядам паліцыі. Зноў без работы, без сродкаў да жыцця. Толькі восенню 1939 года вярпацца да выпеставанай у марах педагагічнай дзейнасці, ужо пры Савецкай уладзе. Гэта час яго душэўнага ўваскрасення.

„Эх, вазьму я сваю ліру,
Бо даўно на ёй не іграў.
Думкам-песням дам я волю,
Бо і сам я вольны стаў“

сцвярджаў ён у вершы „К нам прыйшоў цудоўны май“. Але гэты ўзлёт згасіла вайна.

(Працяг на стар. 5)




Снежная Белавежа ● З дбаласцю пра ўмацаванне сям'і ● Плённае супрацоўніцтва паміж Беластокам і Мінскам ● Літаратурная старонка ● Дзе д'ябал не можа ● Палоска Дзядзькі Кваса ● Буг у агні ● Весткі з Чаромхі, Гайнаўкі, Масева, Лазовага, Клейнікаў ● Калі сніцца хлопец з маленькімі рукамі ● Каляндар „Нівы“ на 1980 год.




**Niedziela 30 XII** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek oraz „Tajemniczy ogród“ — film ang. 10.20 Antena. 10.45 Pociągi i ludzie — Orient express — franc. film dok. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Śpiewa Ryszard Tarasewicz. 13.00 Etna — film dok. 13.50 Koncert Życzeń. 14.35 Losowanie Dużego Lotka. 14.45 Tropami mitów — odc. VII. 15.25 Szalony koń — western USA. 16.45 Studio Sport. 18.10 Decydujący Front — odc. VI „Wojna w Arktyce“. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Strachy — odc. IV. 21.45 Program rozrywkowy.

**Poniedziałek 31 XII** — 14.45 Program dnia. 14.50 Dla dzieci. 15.40 Obiektyw. 16.00 Dziennik. 16.10 Zwierzyniec. 16.40 Losowanie Sylwestrowego Lotka. 17.00 Show jakich mało. 18.00 Gwiazdy Festiwalu Sopot — 79. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Noworoczne. 20.35 Szczęśliwego Nowego Roku — film fab. 22.25 Sylwestrowe Studio Gama. 0.30 Lola Colt — włoski western.

**Wtorek 1 I** — 8.55 Program dnia. 9.00 Detektyw Blomkwist. 11.20 Klub sześciu kontynentów. 11.50 Dziennik. 12.15 Koncert Noworoczny z Wiednia pod dyr. Karajana. 13.30 Studio Sport. 14.30 Noworoczne rytmy Jerzego Miliana. 15.05 Studio Sport. 15.35 Sercem śpiewane — Mieczysław Fogg. 16.55 Grand Prix — film fab. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Słodkie oczy — film TP. 21.35 Dziś mamy bal — pr. muz. 22.15 Trzech panów w łódce — komedia ang.

**Środa 2 I** — 11.05 Fizyka kl. VIII. 12.00 Fizyka kl. VII. 12.45 TTR i RTSS — j. pol. 13.25 Hist. 14.30 W drodze do nowego. 15.25 Program dnia. 15.30 Nurt — matematyka. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci: Pan Półka i spółka. 16.55 Losowanie małego lotka. 17.05 Cyrk świata — Budapeszt. 18.05 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.30 Świat, który nie może zaginąć. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kino Int. filmów — „Brawo Maestro“ — jug. 22.10 Dziennik. 22.25 Studio Sport. 22.55 Forum krytyków.

**Czwartek 3 I** — 6.00 TTR — RTSS — j. pol. 6.30 Hist. 11.05 Hist. kl. VII. 12.00 Nauka o człowieku kl. VIII. 14.00 TTR i RTSS. 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Szaleniec. 17.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.25 Rep. wojskowy. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Smak emocji — ang. (kryminał). 22.10 Pegaz. 22.55 Dziennik.

**Piątek 4 I** — 6.00 TTR i RTSS — j. pol. 6.30 Biologia. 11.05 Praca — technika kl. I. 12.00 Geografia kl. VI. 12.45, 13.25 TTR i RTSS. 15.10 Red. szkolna zapowiada. 15.25 Program dnia. 15.30 Pedagogika. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Magazyn motoryzacyjny. 17.25 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.00 Saga rodu Rius — film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Między wrześniem a majem: „Gorący śnieg“ — film fab. radz. 22.15 Dziennik. 22.30 Studio Sport.

**Sobota 6 I** — 6.00 TTR i RTSS. 6.30 Fizyka. 11.05 Dla najmłodszych: kl. III. 12.00 Wychowanie plastyczne kl. I—VIII. 12.45 TTR i RTV. 13.25 Chemia. 14.30 Program dnia. 14.35 Radzimy rolnikom. 14.45 Obiektyw. 15.00 Dziennik. 15.15 Orbita. 15.45 Czarny kot — film węg. fab. 16.35 Zgadnij kim jestem — teleturniej. 17.20 Studio Sport. 18.10 Szanujmy wspomnienia „The Platters“. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Lady Caroline Lamb — melodramat wł. 22.10 Dziennik. 22.25 Hanna i przyjaciele — program rozrywkowy.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Cienie gorącego lata — czes. 1—2. Orkiestra klubu samotnych serc — USA 3—4. Bliskie spotkania — USA 5—6.

**Bielsk Podl.** Przygody Picassa — szwedz. 2—3. Panny z Wilka — pol. 4—5. Ofiara namiętności — hiszp. 6.

**Czeremcha** Ucieczka z więzienia — radz. 1—2. Stara strzelba — fr. 5—6.

**Czyże** Bilet powrotny — pol. Niech się boi — czes. 2—6.

**Gródek** Dramat na polowaniu — radz. 5—6.

**Hajnówka** Gorące polowanie — jap. 1—2. Sanchez i jego dzieci — meksyk. 3—4. Austostopowicz — czes. 5—6.

**Michałowo** Krótki sezon — wł. 1—2. Ostatni wiosenny śnieg — wł. 3—4. Różowe sny — czes. 5—6.

**Mielnik** Zasady domina — USA 2. Hallo Szpicbródka — pol. 5—6.

**Milejczyce** Stawiam na trzynastkę — czes. Przygody Picassa — szwedz. 2—6.

**Narew** Zakręt — pol. Dyrektor do wszystkiego — rum. 2—6.

**Narewka** Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. Każdy ma swoje piekło — fr. 2—6.

**Nurzec** Błękitny ptak — radz. 1—2. Zmory — pol. 3—4. Tortury — fr. 5—6.

**Orla** Dziki niedźwiedź Gawryło — radz. Szantaż — ang. 2—6.

**Rajsk** Bestia — pol. Mały książę — USA 2—6.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# Найлепшыя, узорныя, перадавыя

Гміна Кляшчэлі налічвае 24 вёскі. Індывідуальныя гаспадары апрацоўваюць 7034 га зямельных угоддзяў. Зялёныя ўгоддзі займаюць 33,3% усёй плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў. Паказчык банітацыі глебы 0,74.

У Кляшчэлеўскай гміне існуе зараз 25 спецыялістычных гаспадарак: трынаццаць з іх займаецца жывёлагадоўляй і дванаццаць — раслінаводствам.

Сярод сялян, якія вядуць спецыялістычныя гаспадаркі, найлепшых поспехаў дабіліся Ян Міцэвіч і Арсень Маркевіч — абодва з Дашаў, Аляксей Багроўскі, сын Рамана, з Сухавольцаў, Сцяпан Календа ,сын Аляксандра, і Яўген Сакоўскі, сын Яна, — абодва з Залешанаў.

Ян Міцэвіч вядзе дзесяцігектаровую гаспадарку ў Дашах. Спецыялізуецца ў вырошчванні бульбы. Вырошчваннем гэтай сельскагаспадарчай культуры заняўся ў 1977 годзе. Цяпер збірае гэтых караняплодаў з больш чым 2 гектараў. Апрача таго, гадуе кароў і свіней (у пералічэнні на 100 гектараў зямельных угоддзяў у яго прыпадае 86 штук быдла і 111 штук свіней — гэта высокія паказчыкі). Земляроб мае добрыя прадукцыйныя вынікі. І так, у бягучым годзе, нягледзячы на неспрыяльныя атмасферныя ўмовы для сельскай гаспадаркі, сабраў у сярэднім па 23 цэнтнеры з кожнага гектара пасяўной плошчы чатырох асноўных збожжавых культур і па 490 ц/га бульбы. У мінулым годзе сельскагаспадарчых прадуктаў прадаў ён дзяржаве на суму 253 тысячы злотых. Працу на гаспадарцы механізуе пры дапамозе трактара і падвесных сельскагаспадарчых машын.

За дасягненні на сельскагаспадарчай ніве Ян Міцэвіч узнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі і значком Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі, ён з'яўляецца актыўным членам ПАРП.

Арсень Маркевіч, ураджэнец Дашоў, апрацоўвае 14,5 га зямельных угоддзяў. Завёў малочнае і ўбойнае быдла. У мінулым годзе ён камплектна механізаваў абору, падключыў ваду, абсталяваў электрадаілку. У пералічэнні на 100 га зямельных угоддзяў у яго гаспадарцы прыпадае 124 штукі быдла. Усе палявыя працы механізуе пры дапамозе трактара (купіў яго адным з першых у вёсцы), бульбакапалкі, снопавязалкі, раскідальнікі ўгнаенняў і другіх сельскагаспадарчых машын.

Палітычна-адміністрацыйныя ўлады высока ацанілі заслугі хлебароба А. Маркевіча. Ён быў узнагароджаны: у 1974 годзе Сярэбраным Крыжам Заслугі і ў бягучым годзе — Залатым Крыжам Заслугі. Ваяводскія ўлады ўзнагародзілі яго сярэбраным і залатым значкамі „Заслужаны для Беласточчыны“.

Аляксей Багроўскі з Сухавольцаў мае амаль васьмігектаровую гаспадарку. Усе палявыя работы механізуе. Займаецца вырошчваннем пасадачнай бульбы. У бягучым годзе сабраў ён ураджай збожжавых у сярэднім 26 цэнтнераў з 1 га зямельных угоддзяў і бульбы — 320 ц/га. У пералічэнні на 100 га зямельных угоддзяў у яго гаспадарцы прыпадае па 98 штук быдла і па 113 штук свіней. Сёлета для насеннай цэнтралі прадаў ён 30 тон бульбы. Усіх сельскагаспадарчых прадуктаў прадае дзяржаве са сваёй гаспадаркі ў сярэднім на суму 162 тысячы злотых.

Вопытны земляроб Сцяпан Календа з Залешанаў мае 6,5-гектаровую гаспадарку. Пераняў яе ад бацькоў у 1977 годзе. У 1978 годзе пачаў спецыялізавацца ў вырошчванні бульбы. Сёлета сабраў у сярэднім па 27 цэнтнераў збожжавых культур з 1 га зямельных угоддзяў і па 310 ц/га бульбы. У яго гаспадарцы ў пералічэнні на 100 га зямельных угоддзяў прыпадае па 79 штук быдла і па 121 штуцы свіней.

Сцяпан Календа — малады хлебароб. Ён паспяхова закончыў курс на званне кваліфікаванага гаспадара і цяпер займаецца ў карэспандэнцыйным сельскагаспадарчым тэхнікуме, які закончыць у 1980 годзе. Мае ён уласны трактар і намераны купіць падвесныя сельгасмашыны. У бягучым годзе прадаў дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на суму 140476 злотых.

Яўген Сакоўскі з вёскі Залешаны вядзе 9,7-гектаровую гаспадарку і апрацоўвае зямлю пры дапамозе трактара і падвесных машын. У 1978 годзе пачаў ён спецыялізацыю ў гадоўлі малочнага і ўбойнага быдла. Гэта малады гаспадар. Пераняў ён у сваё ўладанне гаспадарку ад бацькоў. Закончыў школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. У гэтым годзе сабраў ураджай чатырох асноўных збожжавых культур у сярэднім 26 ц/га і бульбы 280 ц/га. У мінулым годзе даставіў ён на пункты скупкі сельскагаспадарчых прадуктаў на суму 107200 злотых.

**Я. Целушэцкі**

ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

# Рана на паніхіду

Як трывожныя гудкі прагучэлі ў „Ніве“ галасы карэспандэнтаў у дыскусіі „Чаму моладзь уцякае з вёскі“. Гаворку лічу не зусім сур'ёзнай. Рыба шукае, дзе глыбей — чалавек, дзе ляпей. Кожны аратар выказаў толькі частку праўды. Але дыскусія кранула мяне. Яшчэ і як! Аднак да пісання прымусіў толькі інж. Рудкоўскін. Выхадцы з вёсак паляць масты, якія злучаюць іх з мінулым і, бы апостал Пятрук у крытычную ноч, выракаюцца свайго паходжання.

Не ведаю, чаму гэтую горкую праўду не чапалі мы. Абміналі яе, як злую балячку. Ведаем, што гінем, як адпеўвае нас Барскі, і хоць бы хны. Бы загіпнатызаваныя, здаемся молаху загінення. Няўжо ж мы блудныя сыны? Няўжо ж мы не спадкаберцы нашага фенаменальнага племя?

Нядобра. Але і вінаваціць няма каго. Гляджу цвяроза на непазбежны факт. І не трагізуючы выкажу свае думкі, хоць ніхто мяне аб гэтым не просіць. Няраз я задумоўваўся, чаму гэта наш род, бы ненармальны, з лёгкім вецярком выракаецца ўсяго свайго роднага-кроўнага? Памажыце мне, людзі добрыя, і ты, вялікі Божа, зразумець, дзе сабака зарыты. Я — не я, куды вецер, туды й я. Хто ж ты сапраўды? Памажыце мне, даражэнькія, разабрацца, дайсці да толку, чаму нашы прадзеды, што жылі ў цемры і галечы, трымаліся роднага, чаму наша адукаваная і ў дастатку гадаваная моладзь цураецца свайго паходжання? Не чакаючы адказу (бо мо сапраўды няма каму і заікнуцца наконт гэтага), выкажу сваю думку. Таму мы такія і не іншыя, бо ў нашых жылах кроў яцвяжа. Я асабіста не веру версіі навукоўцаў, што яцвягі ўшчэнт загінулі ў васьмідзесятых гадах трынаццатага стагоддзя. Брахня! Чорт іх не ўзяў і не возьме. Жылі яны, жывуць і жыць будуць, гэтыя фенаменальныя паганцы, верціхвосты, чэрці балотныя. Як заўважыў інж. Рудкоўскін, беластоцкія беларусы выбіваюць у сваіх дзяцей родную мову. Па-яцвяжаму выбіваюць. Паспяхова. У падшыванні яны мастакі ад прыроды. Няварт тыя яны нашага жалю і дарма іх Панфілюк заклікае да супрацоўніцтва. Яны, галубок, у „Ніву“ пісалі, пакуль у вёсцы пажывалі, а як у блёку пасяліліся, то й пісаць забыліся. Не дагледзеў ты ў іх яцвяжкаў, саколіку. Прывыкай і не хвалюйся такімі стратамі. Мусіць так быць, плюс-мінус. На мой мужыцкі розум хаўтурную песню пяе нам наш паэт Барскі. Іду яму насустрач. Не гінем мы, браткі, не. Мы расцем, каб вы ведалі. Я гэтае бачу і чую сваім нутром. Персанальныя страты публіцыстаў, якія ўлятучыліся з „Нівы“, — малазначны мінус. Самі бачыце, не адчула іх „Ніва“, не толькі засталася на нармальным узроўні, а наадварот, з году ў год расце і прыгажэе. А гэта вялікі плюс. Гэта падстава да аптымізму. Ні к чаму адпраўляць паніхіду аб нашым загіненні.

Ці ж не праўда?

**Дзядзька Квас**

БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Ткачоў М.**, Дыханне агню, 1978, стар. 592, цана 48 зл.

Салідны том, у які ўвайшлі раман, аповесці, нарысы, пяра пісьменніка і журналіста, што ўсю Вялікую Айчынную вайну змагаўся на фронце і ў партызанскіх атрадах. Непасрэднае тхненне тых вогненных часоў адчуваецца на кожнай старонцы гэтай кнігі.

**Жураўскі А. І., Крывіцкі А. А.**, Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР, 1979, цана 4 зл.

Брашура-даведнік аб працах, якімі займаецца Акадэмія навук БССР па вывучэнню сучаснай беларускай мовы, гісторыі беларускай мовы, беларускай дыялекталогіі і славістыцы.

**Каспровіч А.**, Апавяданні, 1978, стар. 208, цана 22 зл.

У перакладзе беларускіх пісьменнікаў зборнік апавяданняў польскага пісьменніка пра мінулае і сённяшні дзень Польшчы.

Харавы канцэрт, 1978, цана 10 зл.

Зборнік твораў беларускіх кампазітараў і апрацовак беларускіх народных песень для хору без акампаніямента (а капэла). У выданні знаходзім: „Вы чулі, як плачуць дрэвы“ Ю. Семянякі на словы П. Броўкі, „Маладосць“ Ю. Семянякі на словы У. Карызны. „Мёд“ Г. Вагнера на словы К. Кірэенкі і іншыя творы, а таксама беларускія народныя песні „Там за садам“ і „А сёння ў нас маслена“ ў апрацоўцы А. Багатырова, „А ў полі, полі“ ў апрацоўцы А. Захлеўнага і іншыя.

**Якімовіч Ю. А.**, Драўлянае дойлідства беларускага Палесся, 1978, стар. 152, цана 34 зл.

„Спецыфічныя прыродна-геаграфічныя ўмовы Палесся вызначылі развіццё самабытнай культуры. Важнейшай галіной архітэктуры ў багатым лесам Палессі з'явілася драўлянае дойлідства... У драўляным будаўніцтве асабліва шырокі ўдзел прымалі народныя майстры, якія ў сваёй творчасці адлюстравалі дэмакратычную народную архітэктурную эстэтыку“, — піша аўтар ва ўступе да гэтай каштоўнейшай манаграфіі, якая прысвечана драўлянаму будаўніцтву на Палессі ў XVII—XIX стагоддзях. Разглядаецца будаўніцтва народнага жылля, маёнткаў, замкаў, палацаў, грамадскіх пабудоваў, цэркваў, касцёлаў, капліц, званіц і іншых будынкаў. Багатыя ілюстрацыі.

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki” 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

ФАЛЬКЛОР

**ЖАРТОЎНАЯ**




*Ехаў Ясё з украіны, згубіў жонку ў каляіні,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*Аглянуўсо за тры мілі — ляжыць жонка ў каляіні,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*— Чом ты тэды не казала, як ты з воза выпадала,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*— Каб ты мужык добры быў — добры возічак зрабіў,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*Сяку-таку каламажку — вазіць жонку па кірмашку,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*— Каб ты была добра жона, та й сядзела бы ты ўдома,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*— Ой, пайду я да адрыны — ні саломы, ні мякіны,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*Ой, пайду я да каморы — німа хлеба, ані солі,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
*Пакуль есці наварыла — свіння дзверы паваліла,*
*ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*

Ад Яніны Радуха, 1923 г. нараджэння, в. Бянёўцы гм. Новы Двор, запісаў 18 ліпеня 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

(Працяг са стар. 2)

# З ТАЕ ЭПОХІ

За супрацоўніцтва з партызанамі гітлераўцы ўкінулі яго спачатку ў слонімскую турму, потым у лагер смерці ў Калдычаве.

Вядомы знаўца заходнебеларускай літаратуры У. Калеснік піша: „Драматычныя павароты біяграфіі Пяюна надаюць яго паэзіі асаблівы, зменлівы каларыт. Мы бачым дзівосны, няўстойлівы светацень, здаецца, нібыта з'явы жыцця асветлены прывідлівым святлом начное паходні. Чым далей ад радзімы кідае героя злы лёс, тым мацней і драматычней дзейнічае сіла прыцяжэння“. І далей: „Вершы, створаныя аўтарам у лагеры смерці Калдычава, не маюць у беларускай паэзіі прэцэдэнту...“.

Гэта было напісана ў 1965 г. Ад таго часу ў С. М. Новіка-Пяюна паўстала шэраг новых твораў, ён падрыхтаваў да друку зборнік сваіх вершаў, а яго верш „Сэрца, не плач“ склаў вядучы матыў у кінафільме „Боль мая — Хатынь“. Скампанаваў ён болей 75 песень, сярод іх ёсць і вядомы па ўсёй Беларусі вальс „Над Шчарай“, прысвечаны ўлюбёнай аўтарам Слонімшчыне, і „Не гудзе зялёная дуброва“, што некалькі год таму публікавалася ў тыднёвіку „Голас Радзімы“.

Надта ж цікавую педагагічную працу вядзе ён з дзецьмі. Год дванаццаць таму заснаваў у сваёй кватэры дзіцячы клуб „Дружба — не-разлей-вадой“. З некалькіх кварталаў сходзяцца сюды дзеці, прыносяць уласныя вершыкі, малюнкі, апавяданні, тут дэкламуюць, спяваюць, малююць, танцуюць, знаёмяцца і завязваюць паміж сабой праўдзівую дружбу — не-разлей-вадой. І не толькі паміж сабою. С. М. Новік-Пяюн дапамог маленькім мінчанам таксама моцна падружыць з сябрамі з Польшчы, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Венгрыі, Балгарыі. З балгарскімі піянерамі перапісваецца каля сотні членаў клуба, з юнымі грамадзянамі ГДР — болей пяцісот. Найбольш жа — з польскімі гарцэрамі, бо каля дзвюх тысяч, і ўсе гэтыя знаёмствы наладжаны праз нашу ніваўскую „Зорку“! Дзеці вядуць паміж сабою вельмі актыўны абмен лістамі, паштоўкамі, маркамі, сувенірамі, нават ездзяць у госці. З былых членаў клуба выраслі ўжо мастакі, паэты, празаікі, інжынеры, педагогі, хірургі. А іхні грамадскі настаўнік-выхаваўца беражліва захоўвае іх творы ў дзесятках самаробных маленькіх зборнічкаў, малюнкі ў мностве альбомаў, песенькі — на магнітафоннай стужцы. І з задавальненнем мне паказвае Ганаровую грамату і залатое адзначэнне Таварыства дружбы ГДР—СССР, якія ён атрымаў у 1977 г. Я ўпэўнены, што такое ж адзначэнне належыцца яму ад Таварыства польска-савецкай дружбы і БГКТ.

Па ўсёй яго кватэры развешана многа фатаграфій школьнікаў і маладых людзей з цёплымі даравальнымі надпісамі іменна яму — любімаму настаўніку, прыяцелю, сябру. А сярод не меншай колькасці дараваных аўтарамі кніг маю увагу звярнуў зборнік вершаў вядомага беларускага паэта і літаратуразнаўцы родам са Слоніма — прафесара Алега Лойкі з яго ўласнаручным для С. М. Новіка-Пяюна надпісам: „Першаму майму літаратурнаму настаўніку“.

Незвычайных людзей даравала Заходняя Беларусь!

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

Імпартгумар

# ЁЛКА

Я сядзеў на падлозе і думаў. Толькі што трэці цвік увагнаў у падлогу, а ёлка ўсё роўна павалілася. Нахілілася так павольна і па твары калючкамі праехала. З камля здзекліва выглянулі тры ладныя цвікі.

— Вось, паглядзіце на яго! Сядзіць. За ўвесь дзень ёлку не можа паставіць. У людзей спецыяльныя крыжыкі ёсць...

— Крыжыкі, крыжыкі, — перабіў я жонку і выбег з кватэры на лесвічную пляцоўку. Паверхам вышэй на пляцоўцы стаяў сусед Фама Абакумавіч і курыў. Раптам прыйшла ў галаву думка.

Трымаючы малаток і вялікі цвік, я падбег да суседа.

— Фама Абакумавіч, ратуй! Дазволь загнаць гэты вось цвік у тваю падлогу.

— Што, ужо... цёпленькі!..

— Ды не. Кроплі ў рот не браў. Слухай мяне. Цвік, значыць, пройдзе тваю падлогу, потым маю столь. Я яго загну кручком і павешу яе.

— Каго — „яе"! — Фама Абакумавіч адвёў убок вочы і ўзяўся за ручку дзвярэй сваёй кватэры.

— Ёлку, — прашаптаў я. — Усё роўна ёй, — стаяць ці вісець. І круціцца тады можа... А ў тваёй падлозе будзе тырчаць маленькая-маленькая плешка ад цвіка. Хочаш, мы нафарбуем яе, плешку гэтую...

Праз якіх-небудзь пяць мінут усё было скончана.

— Ура! — закрычаў я на ўсю сілу лёгкіх. — Ёлка вісіць!

Тут нехта ўзяў мяне за плячо.

— Чаго крык справіў? Уставай, хопіць спаць. Ёлку я сама ўжо паставіла.

Я расплюшчыў вочы, выцер пот з ілба, паглядзеў спачатку на жонку, потым на ёлку. На душы стала лёгка-лёгка. Наперадзе 365 дзён спакойнага жыцця. Адным словам, да наступнага Новага года...

**В. Найдзін**



— *Не перашкаджай!*

### ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

— Такім чынам, паважаны калега, на гэтым і вырашым. На Новы год прыходзь да нас у госці. Мая жонка праспявае спачатку некалькі песень, пасля наша дачушка сыграе на піяніна, а ў дзесяць гадзін сядзем за святочны стол.

— Вялікае дзякуй за запрашэнне. Тады я лепш буду ў вас роўна ў дзесяць.



**У іх не было нічога агульнага. Апрача дзяцей.**






## ЛАЎРОН І ЛЮСТЭРКА

Забрыўшы ў „забягалаўку", Лаўрон
Адтуль ледзь выбраўся, рачком упоўз у хату.
І раптам бачыць у люстэрку ён —
Стаіць страшыдлішча кудлаты!
— Ну, і прадукцыю ўжо сталі выпускаць! —
Лаўрон замармытаў. —
Свіннёю чалавек адразу можа стаць!..
Каб я ім гэта даравaў?!. —
Люстэрка ён шпурнуў скарэй —
І разляцеліся кавалкі
Ва ўсе куткі, пад стол, пад лаўкі.
Пры чым люстэрка да свіней!

**Пятро Красюк**





„Made in Zadrypanka".

### МГР ЗАДРЫПОВІЧ

Дзвынкнуў званок. Мгр Задрыповіч адчыніў дзверы і ўбачыў маладога чалавека.

— Прабачце, вам новы каляндар на наступны год не патрэбны?

— Дзякую, наш стары пакуль яшчэ цэлы.

### БЕЗ ІМЯ

— Як завешся, хлопчык?
— Я не ведаю!
— А як цябе клічуць дома?
— Тата кажуць — шыбенік, мама — шкоднік, бабуля — разбойнік, дзядуля — бандыт, а цётка — люцыпар.

### З БЛАКНОТА ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Ваша імя і прозвішча?
— Лёля Міленькая.
— Імя і прозвішча бацькі будучага дзіцяці.
— Гэтага я не ведаю. Мы не былі так блізка знаёмы.

### ДРУГОГА НЕ ЧУВАЦЬ

— Божа мой, у цябе дванаццацёра дзяцей. І як ты можаш сярод такога гоману жыць?
— Нічога. Калі адно пачынае крычаць, то другога ўжо не чуваць.



— *Падкова? Дык гэта ж на шчасце!*

### ЦУДАДЗЕЙНАЯ СІЛА

Пасля баксёрскага паядынку журналісты пытаюць у пераможца:
— Вы верыце ў цудадзейную сілу амулетаў?
— Веру, інакш не клаў бы на шчасце падкову ў пальчатку.

### РОЗНАГА СОРТУ

Пакупнік пытае ў аптэкара:
— Чаму гэта выстаўленыя на продаж тэрмометры паказваюць розную тэмпературу?
— А яны рознага сартоў — першага, другога і трэцяга.

### ВЫПАДАК У ТЭАТРЫ

— Вы не маглі б цішэй пляскаць у далоні над маім вухам?
— А вам не сорамна? Пайшлі ў тэатр і спіце!
Голас збоку:
— Не чапайце яго! Гэта аўтар.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## ORKIESTRY DĘTE

**Słowa: Jan Stanisławski**
**Muzyka: Urszula Rzeczkowska**

Niby nic, a tak to się zaczęło,
niby nic, zwyczajne pa, pa, pa,
jest w orkiestrach dętych jakaś siła,
bo to było tak:

Babka stała na balkonie,
dołem dziadek defilował,
ledwo go ujrzała,
nieomal zemdlała,
skrapiać trzeba było skronie.
Dziadek z miejsca zmylił nogę,
pojął, czas rozpocząć dzieło,
stanął pod balkonem,
huknął jej puzonem,
no i tak się to zaczęło.

Niby nic, a tak to się zaczęło,
niby nic, zwyczajne pa, pa, pa,
jest w orkiestrach dętych jakaś siła,
bo znów było tak:

Mama stała na balkonie,
dołem tatus defilował,
ledwie go ujrzała,
nieomal zemdlała,
skrapiać trzeba było skronie.

Papcio z miejsca zmylił nogę,
poczuł jak go coś natchnęło,
stanął pod balkonem,
huknął jej puzonem
i tak podjął dziadka dzieło.

Niby nic, a tak to się zaczęło,
niby nic, zwyczajne pa, pa, pa,
jest w orkiestrach dętych jakaś siła,
lecz ich dzisiaj brak.

Próżno bowiem na balkonie
czekam, by ktoś defilował,
żebym go ujrzała,
nieomal zemdlała,
by mi nacierano skronie.
Żeby z miejsca zmylił nogę,
tak jak tamtym się zdarzyło,
stanął pod balkonem,
huknął mi puzonem,
by mnie także się spełniło.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Уладальнік магазіна, які абрабавалі напярэдадні, гаворыць прыяцелю:

— Уяўляеш, як мне пашанцавала? Якраз учора я ўцаніў вялікую частку тавараў.

*

Кравец, якому кліент доўга не аплачвае рахунак, вырашае пайсці да яго сам. Ён застае даўжніка за абедам. Той разразае цудоўную індычку.

— Мсье Дзюпон, — усклікае кравец, — калі ж вы мне вернеце доўг?

— Ах, даражэнькі мой, у мяне няма грошай, пацярпіце.

— Няма грошай? А ясцё індычку?!

— Так, бо ў мяне не было нават чым яе карміць...

*

Вядомы пісьменнік спыніўся ў пансіёне, гаспадыня якога была надзвычай дапытлівая. Аднойчы ён не вытрымаў і сказаў ёй:

— Мадам, я ўжо пагадзіўся з тым, што вы чытаеце мае пісьмы, але я не магу пагадзіцца з тым, што вы на іх адказваеце!

### З „Весніка Задрыпоніі" РЭПАРТАЖ

Гэтага чалавека можна сустрэць на рабоце ў любую пагоду — і ў слату, і ў сцюжу, і нават у час снегападу. „Уражанне, што яго не спужае нават галалёд", — са здзіўленнем гавораць жыхары мурашніка „В" аб сваім дворніку.

### ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Калі я перамог сябе, што гэта — перамога ці паражэнне?




### НЯЎЛОЎНЫ ЗЛАЧЫНЦА

У мінулым годзе ў Францыі аб'явіўся злачынца вышэйшага класа. Ён забіў 19-гадовую дзяўчыну, зрабіў замах на жыццё яшчэ трох чалавек, ажыццявіў узброены налёт на паштовае аддзяленне і абрабаваў яго, алкрыта пражываў па некалькі дзён у гасцініцах і плаціў за гэта фальшывымі грашыма, украў каля 30 легкавых машын у розных уладальнікаў, нават падкладваў бомбы ў паліцэйскія машыны. У выніку некалькі чалавек было сур'ёзна паранена. Прычым ён бышчам бы і не вельмі хаваўся. На месцы кожнага свайго новага злачынства, ён, гэты чалавек, пакідаў аналагічныя ўлікі: супраць сябе — адны і тыя ж пытарэты, адны і тыя ж адбіткі пальцаў, нават і пісьмы, выкананыя адным і тым жа почыркам. Была тут відаць, як кажуць у крымінальным свеце, грубая работа, але злачынца аж на працягу 15 месяцаў заставаўся няўлоўным. Многія гаварылі, што злодзюга бадай, не горш за самых паліцэйскіх ведае іх план аперацый, накіраваны супраць яго.

У рэшце рэшт так яно і было. Злачынцам аказаўся 23-гадовы паліцэйскі Алан Ламарэ. Дарэчы, ён уваходзіў у склад той жа групы, якая яго лавіла, і „дапамагаў" ёй. Па службовай характарыстыцы ён лічыўся „чалавекам з рашучым характарам і жывым розумам". І ніхто з калег не мог западозрыць яго, хаця ўсе мелі на руках фатаграфічны партрэт злачынцы. Як жа яны былі здзіўлены, калі адна вясковая жанчына сказала смайму мужу паліцэйскаму: „Дык гэта ж твой сябра і ёсць той бандыт, якога вы шукаеце!.."




**Скажы мне, хто твой сябар, і я скажу, чаму.**